Кошт паштовай перасылкі аплачана агулам.

Цана асобнага нумару 4000 м. п.

# ВОЛЬНЫ СЬЦЯГ

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Выходзіць тры разы у тыдзень.
Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 48.000 м. п.
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 8000 мк., сярод тэксту 7000 м. і на 4 стр. 6000 м., за радок пэтыту у 1 шпальт.

№ 9. Вільня, Нядзеля, 16-га верасьня 1923 г. Год I.

## Вялікі час!

Нядаўна наша часопісь кінула думку, што, каб ратавацца ад поўнага вынішчэньня іх польскаю ўладай, беларусы павінны зьвярнуцца па ратунак да Лігі Нацыяў.

Такі зварот быў-бы вельмі на часе ня толькі затым, што польская ўлада ўжо нават перастала ўкрываць свае пляны зьніштажэньня беларускае нацыянальнасьці ў межах Польшчы, ня толькі затым, што мы ўжо нічога страціць тут ня можам, але і затым, што якраз цяпер Ліга Нацыяў пачала выяўляць больш рухавасьці наагул.

І ў гэты мамэнт беларускаму грамадзянству выпадала-бы ўрэшце галасна заявіць аб сваіх крыўдах, якія ўжо перайшлі ўсякую меру, перад Лігай Нацыяў.

Але ёсьць і яшчэ адна прычына, дзеля якое трэба нам ня траціць часу.

Колькі дзён таму назад польскі ўрад, каб перашкодзіць сваім меншасьцям зварочацца з жалабамі ў Лігу Нацыяў, падаў у Раду Лігі заяву з дамаганьнем, *каб скаргі на уціск нацыянальных меншасьцяў падаваліся апошнімі ў Лігу ня проста, а праз той урад, на які меншасьць гэная жаліцца.* Ведама, калі-б Рада Лігі на гэта прыстала, дык для меншасьцяў гэта быў-бы страшэнны ўдар: зацікаўлены ўрад, на які падаецца жалаба, заўсёды меў-бы магчымасьць „замясьці сьляды“ сваіх праступкаў перш, чым тую жалабу перадаў у Лігу,—і гэтак заўсёды мог-бы „апраўдацца“.

Але польскія дамаганьні, якія імкнуліся да поўнага зьніштажэньня права нацыянальных меншасьцяў жаліцца Лізе Нацыяў на ўціісканьне іх чужым урадам, Рада Лігі *адкінула.* Праўда, Рада Лігі падцьвярдзіла, што, як гэта і раней было заведзена, скаргі меншасьцяў маюць права падаваць у Лігу ня самыя гэныя меншасьці, а тыя дзяржавы, што ўваходзяць у склад Лігі. А як усе „прыяцелі“, што належаць да Лігі Нацыяў, стараюцца бязспынна нечым укалоць адзін аднаго, дык ня трудна будзе і беларусам знайсьці сябра Лігі, што іхнюю жалабу перадасьць, куды трэба.

„Dziennik Poznański“, орган эндэцка-пястоўскага ўраду, мае ўсё-ж такі сьмеласьць пісаць аб „пабедзе“ Польшчы ў гэтай справе, бо справа польскіх дамаганьняў быццам-то мае быць некалі йшчэ разгледжана нанова. Хаця мы ня думаем, каб Рада Лігі прыняла тое, што прадстаўляе яўны абсурд і насьмешку над правамі нацыянальных меншасьцяў,—усё-ж ніхто ня можа напэўна сказаць, ці польская прапазыцыя, калі не сягоньня, дык заўтра, не прыпатрэбіцца якой-небудзь з „вялікіх дзяржаваў“, каб „заткнуць горла“ сваім меншасьцям. А з гэтага вынікае, што і беларусам трэ' сьпяшыць: ніколі нельга прадбачыць, які новы вецер можа павеяць у міжнароднай палітыцы ў самым кароткім працягу часу.

Да таго-ж — periculum in mora: кожын дзень прыносіць беларускай меншасьці ў Польшчы новыя скорпіоны, ад якіх фізычна і маральна нішчыцца беларускае насяленьне.

**Ст. Мірскі.**

## Царква і дзяржава.

Ня можа быць ніякае спрэчкі аб тым, што царква ня толькі ў буржуазных гаспадарствах, але і ў сацыялістычных рэспубліках мае па сягоньняшні дзень вялізарнае *палітычнае* значэньне.

Даволі прыпомніць, якую ролю іграла ў старой царскай Расеі праваслаўная царква -- гэная бязмала чыста *ўрадовая ўстанова.*

Такую-ж ролю ўрадовае установы іграе ў каталіцкіх старонках каталіцкая царква, хаця яна фармальна мае свой зусім незалежны кіраўнічы цэнтр: Ватыкан. Згодна з прынцыпам do ut des, каталіцкая царква за розныя прывілеі, за прызнаньне ёй пяршынства і правоў пануючае рэлігіі ў паадзінокіх гаспадарствах стаецца дужа ўплывовай і дзеяльнай *памочніцай ўлады.*

Асаблівую карысьць царква дае ўрадам ў тых справах, дзе зачэплена *сумленьне* людзей. А перад усім у справах *нацыянальных*: тэрорызуючы вечнымі карамі сумленьне веручых народных масаў, царква, адданая ўраду і, як звычайна бывае, пануючай нацыянальнасьці (наагул, таму, хто мае найбольш сілы), аказвае вялізарны ўплыў як на палітычныя пагляды народу, так і асабліва на яго нацыянальныя пагляды і пачуцьцё. Можна адзначыць, як агульнае правіла, што тая царква, да якой прыналежыць пануючая ў дзяржаве нацыянальнасьць, зьяўляецца найгоршым *ворагам* для нацыянальных імкненьняў *нацыянальных меншасьцяў.*

Асабліва ярка гэта выяўляецца ў Польшчы, — пасьля Баварыі, бадай, найбольш клерыкальнай дзяржавы на сьвеце. Тут у змаганьні меншасьцяў за іх нацыянальнае істнаваньне каталіцкая царква стаіць на старане дужэйшага: палякоў—і вельмі многа памагае ўладзе ў дэнацыяналізацыі „інародцаў“. Каталіцызм ў межах Польскага гаспадарства, ня гледзячы на істнаваньне тут мільёнаў каталікоў няпольскае нацыянальнасьці (у першы чарод ня менш мільёна каталікоў-беларусаў), іграе зусім адкрыта ролю *польскае нацыянальнае царквы* і вядзе незвычайна энэргічную работу ў кірунку апалячываньня насамперш беларусаў і літвіноў.

У шчасьлівейшым палажэньні знаходзіліся дагэтуль украінцы, што жывуць густой масай па ўсей Усходняй Галічыне: яны—уніяты і, хаця таксама, як каталікі, падлягаюць вярхоўнай уладзе Ватыкану, усё-ж такі маюць сваю самастойную царкоўную арганізацыю, якая, дзякуючы патрыятызму і энэргіі выдатнага украінскага дзеяча, мітрапаліта Андрэя Шэптыцкага, што стаіць на чале уніяцкае царквы, ня толькі не адносіцца варожа да ўкраінскіх нацыянальных імкненьняў, але, наадварот, прадстаўляе адну з найбольш моцных падставаў украінскага адраджэньня. Вось-жа польскі ўрад цяпер напружае ўсе свае сілы, каб пазбавіць украінскую ўніяцкую царкву самастойнасьці і абярнуць яе ў такое-ж паслухмянае аружжа польскага захватніцкага нацыяналізму, якім зьяўляецца каталіцтва лацінскага абраду. Гэтак, як вядома з газэт, польская ўлада не дапусьціла мітрапаліта Шэптыцкага ў родны Львоў, куды ён варочаўся з Рыму, і гвалтам перавезла ў Пазнань — зусім так сама, як некалі царская ўлада вывозіла каталіцкіх біскупаў з Вільні ў глыб Расеі...

Зусім зразумела, чаму як у украінскім, так і ў беларускім руху царкоўнае пытаньне мае такую вялікую вагу, што змаганьне за нацыяналізацыю на беларускай тэрыторыі як праваслаўнае, так і каталіцкае царквы захоплівае ўсіх нашых актыўных працаўнікоў на нацыянальнай ніве, незалежна ад іх перакананьняў і палітычных пагдядаў. Зусім зразумела і тое, чаму нацыяналістычная ўлада бярэ пад *„пачэсную варту“* украінскага мітрапаліта—нацыяналіста, чаму адначасна з гэтым польская эндэцкая (значыць, зьвязаная з сучасным урадам) прэса пачала бязспынную кампанію проці тых каталіцкіх ксяндзоў-беларусаў, якія адмовіліся служыць „польскаму богу“ і працуюць дзеля Бога сярод свайго народу, бароначы гэты народ ад зьніштажэньня і дапамагаючы яму стануць на ногі, захаваўшы і разьвіўшы сваю нацыянальную культуру. Зьвяга эндэцкага „Dzień Wil.“ на гэткіх ксяндзоў, астаўшыхся вернымі роднай вёсцы, прыняла нябывалую нават для польскіх нацыяналістаў форму: столькі тут самае бязглуздае брахні, столькі подлых ілжывых даносаў, што перад імі нявінным дзіцём выдаецца знамянітае чарнасоценнае „Русское Знамя“ ці „Кіевлянинъ“. А лейб-орган эндэцыі „Gazeta Warszawska“, пенючыся ад злосьці, закідае самыя неспадзяваныя „злачынствы“ біскупу Лазінскаму *за стары грэх*: увядзеньне беларускіх казаньняў у Меншчыне, забываючы ў засьляпленьні, што якраз гэты біскуп Лазінскій даўно ўжо „адкупіў“ гэны „грэх“: у часе выбараў ў Сойм і Сэнат...

Так, царква ў руках дзяржавы—гэта вялікая сіла, калі ўлада йдзе па дарозе уціску—нацыянальнага, ці клясовага. Нэйтралізаваць, зрабіць гэту сілу няшкоднай можна толькі адным спосабам: *аддзяліўшы царкву ад гаспадарства*, як гэта зрабілі ў сваім часе французы.

На жаль, польская дэмакратыя, а тым больш польскі ўрад, хаця сьлепа ў-ва ўсім стараецца насьледаваць Францыю, ў гэтай справе займае зусім „самастойнае“ становішча.

**М. Малевіч.**

## Пашырайце коопэрацыю.

У цяперашнія часы эканамічнае становішча Польскае дзяржавы зусім ненармальна. Дарагоўля расьце не па дням, а па гадзінам. Раніцай адна цана, ў поўдзень другая, а вечарам трэцьця. Ні адзін з тых, хто чуць-чуць зводзіць канцы з канцамі думаў, якою дарогаю трэба ісьці, каб хоць мінімальна забясьпечыць сябе і сям'ю ад галоднай і халоднай сьмерці. Дзе найсьці патрэбныя грошы, каб аплаціць усялякія налогі і даніны? Дзе прыхапіць некалькі марак, каб дзеткі маглі хадзіць у школу? Ды многа і другіх патрэбаў аб якіх навет і пісаць ня трэба, бо кожнаму, хто жыве з сваей мазольнай працы, яны вядомы.

Калі чалавека гняце беднасьць ён думае, што вечна так ня будзе, можа загляне сонца і ў яго аконца. Вось-жа, як мы ўбачым далей, ёсьць тая дарожка, якая вывядзе да лепшага жыцьця, да лепшай будучыны. Дарожка гэта коопэрацыя.

У нас на Беларусі на коопэратыўныя крамы сяляне спачатку глядзелі скоса, не давералі. Але гэта можна тлумачыць толькі тым, што ў урад пападалі не адпаведныя людзі, якія ня ўзмацнялі коопэратыўную думку, а наадварот руйнавалі яе, дзякуючы сваей несьвядомасьці. Потым перамены ўлады, перамены грошаў таксама не давалі магчымасьці разьвівацца ей. Але ні якая справа, ні якое дзела ня можна зрабіць хутка—шах-шах і гатова. Патрэбна праца, патрэбен час і патрэбна любоў да яе. Любы пераварот можна зрабіць у адзін дзень. Можна скінуць цара, абвесьціць рэспубліку, але наладзіць па новаму гаспадарчы апарат гасударства ў такі тэрмін ня можна. Сусьветная вайна бадай, што ў адзін месяц разбурыла нашы вёскі, а калі мы паглядзім, дык яны і цяпер стаяць разбітымі, зруйнаванымі, а вайна-ж ужо даўно кончылася,

Паглядзім якія-ж мэтады дае коопэрацыя да дасягненьня лепшага жыцьця і якія яе мэты? Калі мы пільна прасочым за ўсім што робіцца на сьвеці, дык убачым, што ня ўсё так, як павіна быць. Адзін з раніцы да позьняй ночы цяжка, не пакладаючы рук, працуе, каб зарабіць на кавалак хлеба, а другі нічога ня робіць, а жыве сытна, багата, выгадна, раскідае грашыма, пухне ад жыру. Чаму-ж гэта так? А таму што на яго працуюць другія людзі. Ён у сваю кішаню заграбае багацьце чужымі рукамі. Тых, што цяжка працуюць большасьць, а тых, што жывуць чужымі мазалямі, чужым потам і крывёй, жменя. Зноў паўстае пытаньне, чаму-ж гэта, калі іх жменька, а нас вялікія прыгаршні, яны верхаводзяць намі? А таму, што яны злучаны ў адну моцную арганізацыю, мэта якой, як бы болей выжаць соку з працоўнага люду, заставіць іх холадам і голадам маўчаць і непаднімаць галавы. Коопэрацыя, (ў перакладзе на беларускую мову значыць супольная праца), вучыць нас у змаганьні за свае лепшае жыцьцё, ісьці арганізована, аб'еднаўшыся, бо толькі ў еднасьці-моц. Пруток з веніка і дзіця зломіць, а цэламу веніку і асілак ня дасьць рады. Коопэрацыя хоча пазбавіць працоўны народ ад эксплёатацыі, вызыску капіталістаў. Кожны чалавек, які толькі працуе, будзь-то рабочы на фабрыцы, селянін на полі, вучыцель у школі, доктар і інш. павінны адтрымліваць тое,

